# Зь Беларускага Жыцьця

### БЕЛАРУСКАЯ ГРУПА Ў ФЭЛЬДМОХІНГУ

Беларусам, якія вылучыліся яшчэ ў 1945 годзе з расейскага лягеру бездзяржаўнікаў у Фюсэне ў колькасьці 40 асобаў і ў траўні 1946 г. пераехалі ў Фэльдмохінг, як самастойная група, паступова удалося павялічыць колькасьць сяброў сваей групы да 250 асобаў.

Стараньнем бацькоў і кіраўніцтва групы яшчэ ў 1946 г. была заснаваная ў лягеры беларуская пачатковая школа, беларускі дзіцячы садок, сельскагаспадарчыя курсы для дарослых і радыё-перадачы на беларускай мове.

Ня гледзячы на значныя перашкоды з боку расейскай адміністрацыі лягеру ў мінулым школьным годзе (памешчаньне беларускай народнай школы аж два разы кватэрмайстар займаў дзеля новапрынятых ДП у лягер, хоць дзеля гэнай мэты былі больш адпаведныя памяшчэньні, дзякуючы чаму заняткі ў школе былі стрыманы больш як на шэсьць тыдняў), сёлета школьны год распачаўся нармальна пры значным узросьце агульнай колькасьці дзяцей у дзіцячым садку і пры дасюляшняй колькасьці дзяцей у народнай школе.

Дзеля дарослых мяйсцовы Нацыянальны Беларускі Камітэт, які пасьля агульных выбараў у красавіку г. году й пераняў на сябе абавязкі кіраўніцтва беларускай групай, зарганізаваў папулярны цыкль лекцыяў на розныя тэмы, перадусім з гісторыі й геаграфіі Беларусі, якія карыстаюцца не малым заінтарэсаваньнем беларусаў.

8 верасьня г.г. наведаў наш лягер Беларускі Тэатр Эстрады. У мастацка афармленым і закончаным выкананьні гледачы мелі магчымасьць пазнаёміцца зь некаторымі фрагмэнтамі беларускага фольклёрнага й опэрнага мастацтва, пабачыць беларускі нацыянальны танец, пачуць моцны беларускі верш і г. д.

Аб агульным зацікаўленьні канцэртам можа сьветчыць хоць-бы факт рэкорднага збору грошаў (найбольшы ў Фэльдмохінгу ад часу грашовае рэформы) і вялікая колькасьць прысутных, ня гледзячы на тое, што з прычыны неспадзяванай хваробы кіраўніка тэатру, ведамага беларускага кампазытара сп. Куліковіча Міколы, адчувалася зразумелае прыгнечаньне сярод артыстых Б. Т. Эстрады.

**М. Баравы.**

### НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ Ў АНГЕЛЬШЧЫНЕ

Сярод некалькіх беларускіх даўно ўжо існуючых арганізацыяў у Ангельшчыне нядаўна паўстала яшчэ адна — Беларускае Хрысьціянскае Акадэміцкае Аб'еднаньне «Жыцьцё», якая гуртуе беларускую інтэлігенцыю ў Вялікабрытаніі, як сярод студэнцкай моладзі, так і старэйшага пакаленьня.

22 жніўня сёлета адбыўся ў Лёндане першы агульны зьезд сяброў Аб'еднаньня. Із справаздачы, зложанай на зьезьдзе, вынікае, што за кароткі час свайго існаваньня Аб'еднаньне прарабіла пазытыўную работу. Яно навязала фармальную лучнасьць із АБСА ў Нямеччыне, увайшло ў зносіны з украінскай студэнцкай арганізацыяй ЦЭСУС, зь міжнароднай арганізацыяй студэнтаў і інтэлектуалістых «Пакс Романа» й інш. Прадстаўнікі Аб'еднаньня прынялі актыўны ўдзел у вапошнім зьезьдзе «Пакс Романа» й зрабілі там адпаведныя стараньні, каб дабіцца матарыяльнай дапамогі нашым студэнтам і старэйшай інтэлігенцыі, якая сяньня часта астаецца бяз хлеба й адпаведнай працы. Між іншым гішпанцы абяцалі канкрэтна памагчы нашым студэнтам.

Зьезд выбраў на пачэснага сябру Аб'еднаньня «Жыцьцё» сп. Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка.

Зьезд даручыў управе Аб'еднаньня зьвярнуцца да кажнага беларуса ў Вялікабрытаніі з просьбай злажыць ахвяру ў помач нашым студэнтам у Нямеччыне.

**Аглядчык.**

# ШТО РАБІЦЬ?...

**(Фэльетон).**

Я рынуўся ў палітыку. Ну, а што, думаю, пакуль у Канаду вывязуць лесь церабіць, ці мэ ў Бэльгію вугальле калупаць, або на якую Ганалюлю разынкі сушыць, то нашто, каб час марнатравіўся? Падамся хоць у палітыку. Пайшоў. Напачатку свае палітычнае чыннасьці я даручыў сабе скласьці ўрад, бо бяз ураду, самі ведаеце, якая палітыка — ні табе рот расчыніць, ні рукамі памахаць... Слушна! Ну дык вось, іду я да Мікіты, бо ён, як мне здавалася, яшчэ нідзе ня быў заангажаваны. Прыходжу, а той шпэк сартуе: направа— па трынаццаць, налева — па дванаццаць.

— Ці ня возьмеш у мяне партфэлю? — пытаюся.

— А гэта што? Скураная торба такая? А давай, давай, браток! Я ў падарожжа часьцяком ежджу, дык яна гэтага... для шпэку...

— Ды я не пра гэтую торбу кажу, мая торба ня зусім практычная, а якбы табе прасьцей сказаць, ну... больш мітычная торба — міністэрскай партфэляй завецца.

— Дык чаго-ж ты мне галаву дурыш? — раззлаваўся Мікіта — у мяне шпэк сохне, а ты мне нейкую мітычную дулю пхаеш. Дзівак! Вось вазьмі лепш кручкі на рыбу, можа і тваійму ўраду прыдасца гэтае снадзіва... Бяры, дурны! Танна аддаю.

Бачу, што Мікіта яшчэ не дарос да вялікае палітыкі і ўраду зь ім ня зробіш. Але кручкоў я ня ўзяў, бо я-ж таксама ня дурны набываць снасьць, калі сэзон канчаецца. Падаўся да Рыгора. Той таксама адмовіўся ад міністра, матывуючы тым, што ён чалавек гандлёвы і ня хоча сабе апінію псаваць.

— Гэта, кажу яму, ня ёсьць перашкода. Вунь вазьмі Гусака — той і жбанкамі гандлюе і ўрад узначальвае. У дэмакратыі гэта можна.

Не пераканаў. Хадзіў пасьля да Янкі. Той, праўда, адразу зварыў, пра што ходзіць.

— Урад, кажа, арганізуеш? Рэч ня дрэнная. А які ты мне партфэль запрапануеш?

— А выбірай, кажу, які хочаш, яшчэ ўсе парожнія.

— Так, так, — пачухаў Янка патыліцу, — а колькі ты мне, эвентуэльне, плаціцьмеш?

— Чалавеча, — кажу, бойся Бога! Чым маю плаціць, калі ў мяне ў самога толькі 7 пачкаў ды й тыя турэцкія? Хіба пачакай троху, як справу разгорнем ды міністэрства фінансаў зладзім...

— Э не, дабрадзею, я напавер не працую. А ўрад, бяз грошай, я й сам меў-бы.

Бачу, што Янка да вялікае палітыкі аж занадта пасьпеў, можна сказаць, перасьпеў навет.

Быў і ў Якіма.

— Давай, браток, урад мантаваць, — кажу яму — ты, прыкладам, будзеш прапагандай заварачываць, Юрка справы забясьпечаньня возьме, ён ужо на гэтым набіў руку, ну, а я хоць-бы сабе і прэм'ера ўзначалю.

— А пад якім шыльдам ты маркуеш свой урад зьбіваць — пад фэдэральным, ці самастойніцкім?

— А ці не адно ліха, кажу, пад якім шыльдам ён будзе? Мне абы ўрад.

— Не, кажа Якім, я сам урад твару, але мой ідзе пад фэдэральным шыльдам. Калі хочаш, далучайся да мяне.

— Ты што, кажу, учадзеў? Каб я ды ў твой урад пайшоў, калі свой маю зьбіваць. Плюнуў, бразнуў клямкай ды й пайшоў наўпрасткі да Міхася Лясьніковіча.

— Здрасьце, — кажу.

— Здрасьце.

— Можа-б партфэлю ў мяне ўзялі? — пытаюся.

— Партфэлю? Дзякаваць. Сваю тэчку маю. Хоць старэнькая, але...

Не. Я пра іншую партфэлю кажу, пра міністэрскую... Урад ствараю.

Той і рукамі замахаў.

— Барані Божа! Гэтага дабра мне ня трэба. Я быў свой урад стварыў, ды цяпер і сам ня ведаю, што зь ім рабіць. Міністэрства прапаганды хоць сяньня зачыніў, бо міністар напачатку так быў асатанеў да ворагаў народу, што як сеў за стол, дык усе свае думкі ўрэз на машынцы й выстукаў, а цяпер ня ведае, што далей стукаць. Сядзіць за сталом ды адно вачыма лыпае. Баюся, каб зусім з глуздоў ня зьехаў. Також і міністэрства асьветы — ніяк не знайду на міністра пісьменнага чалавека. Міністар вонкавае палітыкі зусім апэцкаўся. Зноў-жа прэм'ер — ён хоць языком трохі шавеліць, але-ж гультай і нічога ня ўмее рабіць. А пра іншых і гаварыць няма чаго. Адзіны мой трывалы памоцнік — гэта Гарасім, але вы-ж самі ведаеце, якая гэта боўтка.

— Ведаю, кажу, даўбня ладная.

— Вось жа... Адно, — чыноўнік на адмысловыя доручэньні вёрткі хлапец. Але й той, калі праўду сказаць, задаўгі нос мае. Пхае яго і туды і сюды, і да сваіх, і да чужых. Ненадзейны, шэльма.

— Дык уважаеце, што гэта ня лёгкая справа?

— А вось, як бачыце, прыемнага мала. Няма людзей, няма кадраў.

Такім парадкам не ўдалася ўрадавая кааліцыя з Міхасём Лясьніковічам. Пасьля Міхася я шчэ быў у васьмёх чалавек і ніводная шэльма не ўзяла партфэлю. Той адмаўляецца, што часу няма, другі кажа, што ён ужо заангажаваны ў другім урадзе, а некаторыя дык наагул чаўпуць, што ніякіх ўрадаў ня трэба, бо ўжо ёсьць адзін сталы, законны ўрад. Чулі? Законны! А як гэта ён будзе незаконны, калі я яго сам арганізую? А былі такія дзівакі, што пыталіся, на якой партыйнай базе я разбудоўваю свой урад. Пры чым тут партыя? Зьвярнуўся ў гэтай справе да знаёмага юрыстага, як ён глядзіць на гэтыя партыі.

— Я ўважаю, казаў юрысты, што ўрад можна стварыць і бяз партыі, але ізноў-жа, у гісторыі ведамыя выпадкі, што да ўраду даходзілі праз партыю. Так што самі глядзіце, як зручней.

Пасьля кансультацыі ў юрыстага пачаў тварыць партыю. Але справа сунецца марудна. Пакуль заангажаву жонку, сына ды суседку, — яна ў нас балею часта пазычае дык не магла адмовіцца. Але далей справа йдзе туга. Кажны хоча, каб яму даў гарантыю. А якую-ж гарантыю дасі цяперашнім сьветам?

Дык вось як бачыце, спадарове, палітыка рэч ня зусім лёгкая. У мяне ўжо ня раз лоб пацеў ад думаньня: — што рабіць і як рабіць? А тут — яшчэ й жонка пілуе:

— Вунь, кажа, усе людзі ў чыны вылезьлі, міністрамі парабіліся, адзін ты самапасам ходзіш!..

Ну? Падабаліся-б вам такія гутаркі?

Дык што-ж рабіць, спадарове суродзічы? Парайце, будзьце ласкавы! Бо час не чакае.

**Л. Крывічанін.**

# ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

## I

Польская газэта «Кроніка» ў № 36(89) з 5.9.49 г. ў справаздачы з канфэрэнцыі Фэдэральнага Клюбу Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, якая адбылася 30 жніўня сёлета ў Мюнхэне, падала нязгодныя з праўдаю факты аб маім удзеле ў гэтай канфэрэнцыі. У «Кроніцы» між іншага пададзена, што ў канфэрэнцыі браў удзел «міністар беларускага эміграцыйнага ўраду др. Станкевіч».

У сувязі з гэтым падаю да публічнага ведама, што я не зьяўляюся ніякім міністрам беларускага эміграцыйнага ўраду і што на ўспомненай канфэрэнцыі я выступаў, як прыватная асоба, аб чым афіцыйна й заявіў на гэтай жа канфэрэнцыі. Апрача гэтага ў сваім выступленьні я падчыркнуў, што ня гледзячы на маю прысутнасьць на канфэрэнцыі, як прыватнай асобы, пакуль што не магу вырашыць справы майго належаньня да Фэдэральнага Клюбу, пакуль гэта ня будзе мною ўзгоднена зь беларускімі палітычнымі дзейнікамі.

Таксама не адказвае праўдзе зацемка «Кронікі», што «пасьля дыскусіі дэлегаты пастанавілі залажыць Фэдэральны Клюб Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы — Нямеччына й аднагалосна прынялі дэклярацыю, запрапанаваную рэд. Грабыкам». З прычынаў тэхнічнага характару я быў змушаны перадчасна пакінуць канфэрэнцыю і быў на ей няпрысутным, калі прыймалася дэклярацыя. Аднак перад сваім выхадам я заявіў, што за запрапанаваны рэд. Грабыкам тэкст дэклярацыі буду галасаваць толькі тады, калі пасьля словаў «Гэтая фэдэрацыя будзе дабравольнай сувязяй і абапрэцца на аснове незалежнасьці й гаспадарстваўскай суверэннасьці ўсіх народаў нашай часьці кантынэнту, г. зн. Эстоніі, Латвіі, Беларусі, Летувы, Польшчы, Чэх, Славаччыны, Украіны, Мадзяршчыны, Румыніі, Баўгарыі, Сэрбіі, Харваччыны, Славэніі, Альбаніі й Грэцыі» будзе ўнесеная папраўка «ў іхных этнаграфічных межах». Пры гэтым я выразна й станоўка зазначыў, што калі ў дэклярацыю ня будзе ўнесены этнаграфічны прынцып, як вызначальны для тэрыторыяў будучых незалежных гаспадарстваў, павязаных фэдэральнымі сувязямі, ёсьць вельмі сумліўным, ці беларусы будуць належыць да Фэдэральнага Клюбу й прапагаваць ягоныя ідэі. Паколькі-ж у зьмешчанай у «Кроніцы» дэклярацыі этнаграфічны прынцып ня быў уведзены, то згодна маей вышэйшай заявы трэба ўважаць, што я галасаваў супраць гэтае дэклярацыі.

**Др. Станіслаў Станкевіч.**

## II

### ПАВАЖАНЫ СП. РЭДАКТАР!

Не адмоўце ў ветлівасьці надрукаваць на балонках Вашае высокапаважанае газэты наступнае:

Яшчэ не прайшло двух тыдняў ад няшчасьлівага выпадку, які здарыўся са мною, як ужо на маё імя ўсё больш і больш ад беларускіх арганізацыяў, па асобных дзеячоў, сяброў, знаёмых і зусім незнаёмых мне людзей наплываюць лісты із спачуваньнямі, пісьмовыя й вусныя прывітаньні, кветкі, падаркі і г. д.

Шчыра кажучы, я, навет, быў зьдзіўлены таму, што мая скромная праца знайшла такі чулы водгук сярод нашых суродзічаў. Гэта асабліва ўсьцешвае мяне і прыносіць бадзёрасьць і надзеі ў маім даволі сумным цяпер становішчы. Прыкуты да ложка, я ня маю фізычнае магчымасьці адказаць усім паасобку і таму праз газэту сваю выказваю ўдзячнасьць і прызнаньне ўсім напісаўшым мне, а таксама беларусам з Аўгсбургу, што непасрэдна мне дапамагаюць. Я ад вас далёка, але думкаю й сэрцам я з Вамі, мае родныя й дарагія. Верце, што ніколі не забудуся нашых супольных сьвятых ідэалаў: Вольнае Бацькаўшчыны і шчасьлівае будучыні нашага народу. Мае сілы, веды, уменьне й здольнасьці належаць толькі ім.

Яшчэ раз ад душы дзякую усім Вам!

Жыве Беларусь!

**Мікола Куліковіч.**

Аўгсбург, шпіталь 16.9.48 г.

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

**1. У Вялікабрытаніі:**
**Association of Whiteruthenians in Gt. Britain 49, Linden Gardens, London, W. 2. England.**

**2. У Францыі:**
**Union des Travailleurs Bielorussiens en France 26 Rue de Montholon, Paris 9. France.**

**3. У Бэльгіі:**
**Mr. Kalinka Mikalaj,**
**Rue de Bavendoel 4. Milmort-Liege. Belgique.**

**4. У Канадзе:**
**Mr. Pituska Jozeph,**
**General Delivery. Ottawa. Ont. Canada.**

**5. У Аргентыне:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,**
**Calla Maza, 150. Buenos-Aires. Argentina.**

**Непасрэдна з гэтых Прадстаўніцтваў трэба ў далейшым выпісваць «Бацькаўшчыну» й там-жа ўрэгулёўваць належнасьць за яе.**

**Адначасна просім нашых паважных суродзічаў паза Нямеччынай шырэй падтрымаць фінансова нашую газэту.**

**Рэдакцыя й Адміністрацыя.**

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland"
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 3a.